№ 205 (557)

Субота, 14 лістапада 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



*Васіль ГРОДНІКАЎ*



## Страх і дыктатура чэрні

### Ці будуць калі-небудзь беларусы людзьмі звацца?

### І. Прэзідэнт — адзін, усе астатнія — іншыя

Не ведаю, як вам, а мне, дажыўшы да сталага ўзросту, яшчэ не даводзілася стрэць айчыннага арыстакрата альбо пяшчотную прыгажуню на гарошыне, сапраўднага сельскага інтэлігента ці вясковую кабеціну накшталт гераіняў фільмаў "Кубанскія казакі" ці "Вясёлыя рабяты". У асноўным, калі маладзіцы, то з фільма "Курачка раба", мужыкі — з п'есы М.Горкага "На дне". Усе гэтыя персанажы на філасофскіх вагах цягнуць на паняцце "чэрнь". А вось дзяржаўныя мужы — усе на адзін капыл: амаль кожны з іх вырас у беднай сялянскай сям'і, пачынаў свой працоўны шлях у 15—16 гадоў падпаскам або памочнікам камбайнера і захаваў з тых часоў лексікон і манеру паводзін. А дарваўшыся няхай сабе і да маленькай улады, корчыць з сябе пана ў мужыцкай хаце. Захочаце пераканацца — азірнецеся: ад сельсавета да самага верху такімі хоць гаць гаці.

Начальства, з якога ў асноўным складваецца рэжым, здаецца, і выйшла з народа, ведае яго праблемы, а ці то не ўмее, ці проста не хоча пасапраўднаму падступацца да іх вырашэння. Выконвае ж дзяржаўныя абавязкі так, каб пыл ці дым у вочы. Затое плавае ва ўладзе, як галушка ў масле. Усе яны — прывадныя рамяні, што звязваюць кожнага з нас (а ўсе мы знаходзімся ў адным механізме — калёсікі і вінцікі) з "генератарнай станцыяй". Там, у паднябессі, галоўны "механік" яшчэ летам 1994 года ўключыў рубільнік, націснуў на газ і ўсіх нас, "прасталюдзінаў", з тае пары пры дапамозе прывадных рамянёў трасе, як на камбайнавым грохаце. Пэўне, ён такім чынам адлучае "нячэсных" ад "чэсных" сваіх прыхільнікаў. А што можна вытрасці на тым "камбайне", які выраблены яшчэ ў 1917 годзе? Толькі расходуецца пазычанае ў "Газпрама" і "Лукойла" валютнае паліва. Мусіць, суцяшае "камбайнера" тое, што грукату — аж на усю Еўропу!

#### Нарцыс XIV і іншыя

Аднойчы, наведваючы мясакамбінат па службовых справах, бачыў я, як баран па мянушцы Нарцыс XIV вёў статак на бойню. Бывала, праўда, калі па сумяшчальніцтву гэтаму барану даводзілася вадзіць авечак і на "сарамлівую" працэдуру — стрыжку. Назад яны вярталіся "ў чым маці нарадзіла". Мне расказвалі, што звычайна ў статак для такіх патрэб укараняецца прыгожы і рослы баран-правакатар, які б з дня ў дзень вадзіў авечак да цэха, дзе мужыкі з закасанымі рукавамі і акрываўленымі рукамі выраблююць, што называецца, бараніну. Такіх важакоў на камбінаце называюць антычным імем — Нарцыс*. Кожнаму новаму правакатару прысвойваецца чарговы нумар. Нарцыса звычайна адлучаюць ад статку якраз перад уваходам, што вядзе ў цэх, а таму ён не ведае, навошта водзіць туды сваіх супляменнікаў. Усе, якія былі да Нарцыса XIV, і ён сам, мусіць, думалі (калі дапусціць, што бараны могуць думаць) быццам робяць яны высакародную справу: вядуць авечак на лепшую пашу або ў новую аўчарню. І расказвалі яшчэ, што не было выпадкаў, каб якая з авечак адбілася ад статка. Усе ішлі насустрач сваёй пагібелі з высока паднятымі, як і ў Нарцыса, галовамі, апантана, шчыльнымі радамі, наступаючы адно аднаму на ногі. Такі закон статка! Нарцыс, перапоўнены гонарам правадыра, упэўнена вёў гурт наперад, пэўне, разумеючы, што выконвае і яшчэ адну высакародную місію — дапамагае вырашаць... харчовую праграму.

Прыгадалася тое, бо нейкім чынам нагадвала трывожныя гады сталінскіх хапуноў і брэжнеўскага аднадушша, гітлераўскага адурманьвання сваёй нацыі і пару выбараў першага прэзідэнта Беларусі. Праўда, не трэба (барані вас Божа!) праводзіць прамых паралеляў ці аналогій, бо там быдла, а тут — іншае...

Але, думаю, не проста так трапіла пад пяро тое відовішча. Хочаш не хочаш, а ўспамінаеш: амаль 82 працэнты насельніцтва Беларусі паверылі абяцанням дырэктара шклоўскага саўгаса і абралі яго сваім важаком. Падумаць толькі: 82 працэнты — "за"! Рэдка хто з лідэраў іншых краін можа пахваліцца такім даверам да сябе народа. Тут, што ні кажыце, а выскачылі мы, як той Піліп з канапель, наперад усёй планеты!.. Ой, чаго толькі не бывае на свеце!

П'яная была ў той час Беларусь ці нешта іншае здарылася з яе народам, што хлынулі людзі за лідэрам адстаючага саўгаса, наступаючы адно аднаму на пяты? Што зробіш: калі п'яны, то п'янаму і козы ў золаце. Кульнулі ўсе разам папулісцкай прапагандысцкай брагі з дзежкі, што не бачылі сцежкі... Пасля такой усенароднай п'янкі не хутка наступае пахмелле. І вось, праспаўшыся, адышоўшы ад "бадуна", шмат хто прыкмеціў, што завялі іх у цэх, дзе няма абяцаных ні добрай "пашы", ні новай "аўчарні" — адны мужыкі з закасанымі рукавамі і гумавымі "дерьмократорами". Ухапіліся за постп'яную галаву — ды позна. Канвеер на "бойні" працаваў на поўную магутнасць: напярэдадні на вышэйшай селектарнай нарадзе было загадана аб'явіць ударны фронт — і ў "цэху" разгарэўся рашаючы бой за выкананне і перавыкананне сустрэчнага плана і павышаных сацыялістычных абавязацельстваў. Усім, хто трапіў у гэты цэх, было загадана весці сябе паслухмяна, гуртавацца ў кучу, трымацца разам і, згодна з вышэйшым указам, смела, упэўнена і без выбрыкаў ісці на... "электрычны стул".

Заўжды так бывае: даўся запрэгчы, дасіся і паганяць... Так бывае і тады, калі народ ператвараецца ў чэрнь...

#### Чэрнь і іншыя

Што ж сабой, на думку аўтара, уяўляе чэрнь менавіта сёння? Тлумачальныя слоўнікі Даля, Ожагава, Ушакова поўнага адказу на гэтае пытанне ў сацыяльным аспекце не даюць, як пазбягае гэтага тлумачэння і Вялікая савецкая энцыклапедыя. Дзіва што! Растлумач сацыяльнае значэнне паняцця "чэрнь" — і адразу стане зразумелым, што вельмі значная частка народа, а ў савецкія часы і абсалютная яго большасць, магла цалкам адпавядаць менавіта паняццю "чэрнь", а не паняццям "слаўны рабочы клас", "калгаснае сялянства", "рабоча-сялянская інтэлігенцыя". Ды і тлумачэнні славутых лінгвістаў, якімі б дакладнымі яны не былі на той час, не адпавядалі б сёння той адназначнай характарыстыцы — "прасталюдзіны". На маю думку, гэтае паняцце сёння, падчас пасткамуністычнага перыяду, больш шырокае і складанае, чым адназначнае — "простыя людзі".

Чэрнь — гэта тыя, каму ўласцівыя рысы рабства і халуйства, паднявольныя і запалоханыя людзі, лізаблюды і падхалімы, гатовыя служыць кожнаму, хто дарваўся да ўлады, хто дае яму кавалак хлеба і пры гэтым зусім не задумваецца, не разважае, што тут да чаго. Чэрнь падобрываецца да ўсіх, хто займае хоць бы адну прыступку вышэй за яе на службовай лесвіцы. У чэрні засядае тады страх, як прыродны ген, які прымушае яе трымцець перад уладай, дзяржаўнымі органамі і ўсёй сістэмай за сябе, сваіх родных і блізкіх, за гаспадарку, соткі, уласную ці казённую кватэру, перад спрадвечна несправядлівымі судовымі і іншымі карнымі ўладамі

* *Так звалі сына бога Кефіса і німфы Лаўрыёны. Нарцыс нікога, апроч сябе, не любіў. Толькі сябе лічыў дастойным усеагульнага шанавання і любові.*

(Працяг на 2-й стар.)

## Сельчанам — лучшей доли!

**В воскресенье отмечается День работников сельского хозяйства и перерабатывающей промышленности агропромышленного комплекса. Несмотря на трудности, которые нынче испытываем все мы, многие сельчане трудятся старательно и добиваются неплохих показателей. О некоторых из них рассказывается в фотоокне, которое мы сегодня предлагаем. Желаем им и всем работникам агропромышленного комплекса лучшего будущего!**



### Вот что значит 23-летний опыт работы!

Самые высокие в Гродненской области надои — около шести тысяч килограммов молока от коровы — получает ежегодно доярка колхоза "Октябрь" Гродненского района Мария Вежель. В целом же по хозяйству продуктивность каждой из двухсот голов скота черно-пестрой породы в среднем составляет 4900 килограммов в сутки.

Фото Романа КОБЯКА.



### Расти озимым

За руль трактора Иван Иосифович Автух сел, когда ему едва исполнилось четырнадцать. И вот уже тридцать лет он бороздит совхозные поля. В этом году на своем "Кировце" Иван Иосифович занял первое место в районе, вспахав под озимые более тысячи гектаров.

Фото Романа КОБЯКА, БелТА.



### После школы — в родной колхоз

Восемнадцатилетняя Елена Князева (на снимке) после окончания школы пришла работать в родной колхоз "Рассвет", что в Смолевичском районе. Работая в винном цехе, она успешно учится заочно в Смиловичском сельхозтехникуме.

Фото Александра ЗАХАРОВА.

## У Беларусі ўстанаўліваецца жорсткі кантроль за водпускам лекаў у аптэках і іх расходаваннем у лячэбных стацыянарах

У Беларусі ўстанаўліваецца жорсткі кантроль за водпускам лекаў у аптэках, а таксама іх прызначэннем і расходаваннем у лячэбных стацыянарах і на льготных умовах. Такое патрабаванне да Міністэрства аховы здароўя Беларусі змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў "Аб неадкладных захадах па пастаўках лекавых сродкаў".

**Ягор ЗВОННІКАЎ.**

**Возмутительно!**

## Почему меня обязуют страховать дом?

Я никогда не писал в газету. А теперь решил это сделать. Побудил меня к такому шагу самый что ни есть серьезный повод — грабеж жителей деревни, какого не было уже, наверное, со времен Сталина.

А дело вот в чем. Приходит к нам в дом агент госстраха и говорит "Ваш дом оценен страховой компанией в 480 миллионов, и, согласно декрету президента по обязательному страхованию, надо выплатить 700 тысяч рублей страховой суммы". Но чем платить, если я в совхозе получаю зарплату 600—700 тысяч, и жена столько же, да еще и выдают ее с задержками? К слову, зарплата у нас такая потому, что совхоз убыточный. Но это уже другая тема. А мне бы хотелось остановиться вот на каком вопросе: по какому праву госстрах единолично оценивает наши дома? А если мне нечем платить?!

Страховой агент говорит, что на меня как злостного неплательщика будет заведено дело и передано в суд. И придется мне платить по суду еще и пеню. А если денег я не найду, у меня опишут имущество. Дожились...

Я ничего против страхования имущества не имею. Ради Бога, пусть тот, кто хочет и может, страхует свой дом. А что взять с нищего? Я вкалываю до седьмого пота, а мой труд в этой стране оценен в 700 тысяч. И эти деньги любимое государство хочет отобрать! Вот тебе и законы, и права, и заявления правительства о заботе о тружениках села.

**С.В.Протасевич.**
**Узденский район.**



## Падзенне беларускага экспарту

Згодна з папярэднімі ацэнкамі Нацыянальнага банка Беларусі, па выніках 1998 года адбудзецца падзенне беларускага экспарту тавараў і паслуг на 5 працэнтаў у адносінах да ўзроўню мінулага года, у тым ліку экспарту тавараў — на 8 працэнтаў. Адмоўнае гандлёвае сальда можа скласці больш за 1,05 мільярда долараў, што на 35 працэнтаў вышэй за ўзровень 1997 года. Такія даныя прыводзяцца ў падрыхтаваным Нацбанкам дакладзе "Важнейшыя падзеі і тэндэнцыі ў валютнафінансавай сферы Расіі і іх уплыў на стан і перспектывы развіцця эканомікі Рэспублікі Беларусь".

Да канца года страты экспарту ў Расію могуць узрасці да 600—700 мільёнаў долараў, што перавышае паўтарамесячны аб'ём сумарнага экспарту краіны. Значныя страты для рэспублікі звязаны з наяўнасцю запазычанасці перад беларускімі экспарцёрамі з боку расійскіх партнёраў (на 1 жніўня — 351,4 мільёна ў доларавым эквіваленце), паколькі асноўная яе частка была сфарміравана ў расійскіх рублях.

На думку экспертаў, крызіс у Расіі будзе мець і аддаленыя наступствы. У прыватнасці, дэвальвацыя, пры іншых роўных умовах, прывядзе да росту рэальнага курсу беларускага рубля ў адносінах да расійскага, што знізіць канкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі на расійскім рынку і адмоўна адаб'ецца на аб'ёмах экспарту ў Расію ў доўгатэрміновай перспектыве.

Пагаршэнне фінансавага стану беларускіх суб'ектаў гаспадарання негатыўна адаб'ецца на фарміраванні валютных рэзерваў краіны і ўскладніць задачу забеспячэння стабільнасці абменнага курсу беларускага рубля.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**Беспредел**

## Девятнадцать месяцев арестованному в Новополоцке Льву Ходосу отказывают в свидании с семьей

### Для кого написан Уголовно-процессуальный кодекс Республики Беларусь?

*Заключение под стражу как мера пресечения может применяться при наличии достаточных оснований полагать, что обвиняемый, находясь на свободе, скроется от следствия и суда или воспрепятствует установлению истины по уголовному делу или будет заниматься преступной деятельностью (статья 84 УПК).*

*Подвергают аресту после возбуждения уголовного дела на основании судебного решения или с санкции прокурора (статья 7 УПК). Поводом для возбуждения уголовного дела являются непосредственно обнаруженные органом дознания, следователем, прокурором, судьей или судом признаки преступления (п.6 статьи 105 УПК).*

*Возбуждать уголовное дело можно только в пределах своей компетенции (статья 110 УПК). В частности, судья при наличии обстоятельств, указывающих на совершение преступления, правомочен возбудить уголовное дело в отношении лица, не привлеченного к уголовной ответственности, лишь при установлении этих обстоятельств в судебном разбирательстве по уголовному делу (статьи 255, 256 УПК).*

Так по закону. В Новополоцке правоохранительные органы руководствуются какими-то иными нормативными актами. Потому как 28 марта 1998 года новополоцкий судья А.Боднарчук возбудила уголовное дело по обвинению Л.Н.Ходоса не по фактам, выявленным в ходе уголовного процесса, а по заявлению гражданки. Более того, судья вынесла определение о применении меры пресечения — арест.

По закону, арест накладывается на корреспонденцию и имущество (статьи 173,174 УПК), а к человеку применяется мера пресечения — содержание под стражей (статья 91 УПК). Но в новополоцком суде так не считают. Иные представления о процессуальных нормах и у новополоцкой милиции. Уголовное дело, возбужденное в не предусмотренном УПК порядке, к производству приняли и без санкции прокурора водворили арестованного новополочанина в СИЗО.

В чем бы ни обвиняли Льва Ходоса, но до решения суда он — не преступник, а лишь подозреваемый. Но даже преступнику дают свидание с родственниками. Семье Ходоса отказывают в свидании вот уже 19 месяцев. В каком законе Республики Беларусь или международных правовых актах есть такая кара?

По всей видимости, таковы городские нравы. Жестокие, надо сказать. Витебский правозащитник Алексей Филипченко, чтобы привлечь внимание общества к местному беспределу, сжег себя у здания новополоцкого суда. И, похоже, у горожан другого выхода пока нет. Потому как лишь угроза семьи Ходоса коллективно сжечь себя заставила Витебский областной суд принять дело к производству в первой инстанции. Родные Льва Ходоса надеются, что хоть там есть справедливость.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

**Працягваецца падпіска на першую палову 1999 года.**
**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

**Надвор'е**

У наступныя двое сутак на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае, з праясеннямі надвор'е, месцамі невялікі снег. Вецер пераменных напрамкаў, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы -4...-9, пры праясненнях да -14. Удзень — 0...-5.

